**У НУМАРЫ:**




БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

9 ліпеня 1994 г.
Субота
№ 74 (13791)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*

ЛЕТА

Фота Сяргея БРУШКО.



## Кур'ер "ЧЗ"

### Паабяцалі ўзарваць тэлебачанне

*6 ліпеня ў 22 гадзіны 9 мінут ва УУС Мінгарвыканкама прагучаў ананімны тэлефонны званок. Невядомы паведаміў, што ў бліжэйшыя дні ў будынках Беларускага тэлебачання і радыё, а таксама абласных тэлерадыёкамітэтаў будуць учынены выбухі.*

Адразу пасля званка аператыўныя групы міліцыі зрабілі агляд гэтых памяшканняў. Выбуховыя ўстройствы не выяўлены. Памяшканні Беларускага тэлебачання і радыё і абласных тэлерадыёкамітэтаў узяты пад узмоцненую ахову ўнутранымі войскамі.

### Галадоўка ліквідатараў

*Чацвёра ліквідатараў вынікаў чарнобыльскай катастрофы — пацыенты клінікі НДІ радыяцыйнай медыцыны — аб'явілі 7 ліпеня галадоўку.*

На іх думку, загад Міністэрства аховы здароўя Беларусі нумар 150 ад 5 ліпеня вядзе да фактычнага развалу НДІ.

### БНФ рэфарміруе кабінет. Ценявы

*На праведзенай у штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту прэс-канферэнцыі было паведамлена аб рэфарміраванні ценявога кабінета міністраў. У інфармацыі, прадстаўленай журналістам, адзначана, што падставай для гэтага паслужыла разуменне складанасці палітычнай і эканамічнай сітуацыі, якая склалася ў Беларусі.*

Галоўнай мэтай ценявога кабінета міністраў у бліжэйшы час з'яўляецца распрацоўка праграмных і канцэптуальных палажэнняў, законапраектаў, паправак у заканадаўства. Паводле слоў лідэра БНФ З.Пазьняка, вызначана 17 галін дзяржаўнай эканамічнай дзейнасці, якія курыруе і распрацоўвае ценявы кабінет. Кіраўнік ценявога кабінета — народны дэпутат, кандыдат тэхнічных навук Уладзімір Заблоцкі, ён жа ўзначаліць Міністэрства эканомікі; сфера сельскай гаспадаркі і праблем Чарнобыля даручана І.Нікітчанку — члену-карэспандэнту АН Беларусі; энергетыкі і энергазберажэння — С.Гусаку; Міністэрства рэсурсаў узначаліць Р.Гарэцкі — віцэ-прэзідэнт АН Беларусі; Міністэрства працы, сацыяльнага забеспячэння і кантролю за прыватызацыяй — народны дэпутат А.Сасноў...

Як заявіў на прэс-канферэнцыі З.Пазьняк, БНФ мае намер супрацоўнічаць з любым прафесіяналам, які прытрымліваецца трох асноўных прынцыпаў: незалежнасць дзяржавы, рынычная эканоміка, дэмакратыя.

### Піва супраць цэзію

*Аматарам піва "Былiннае", якое асвоіў і выпускае Бабруйскі завод, цяпер не страшныя радыенукліды. Гэты напой выводзіць з арганізма радыяцыйны элемент.*

Тэхналогію новага гатунку піва распрацавалі спецыялісты МВА "Хартэх". Да звычайнай рэцэптуры дадаецца экстракт салодкага кораня, які вырошчваецца ў Беларусі, іншыя кампаненты, што садзейнічаюць вывядзенню шлакаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Даруй ім, Божа!

*Ёсць на Віцебшчыне месцы НКУСаўскіх расстрэлаў. Адно з іх — ля вёскі Паляі. Яшчэ пяць гадоў таму сябрамі БНФ тут быў устаноўлены і па-хрысціянску асвечаны крыж. Зараз ён паламаны, толькі грудка камянёў нагадвае аб ім. Тое ж самае адбылося з крыжам на Успенцы. Праўда, замест яго зараз афіцыйна ўстаноўлены новы, капітальны.*

Можна знішчыць крыжы, ды нельга знішчыць памяць. Даруй, Божа, сучасным вандалам, бо яны і самі не ведаюць, што робяць.

### Лячыцеся на здароўе!

*Новая паліклініка вырасла ў Паставах.*

Гэта прыгожы, сучасны чатырохпавярховы будынак, прасторныя кабінеты, сучасная айчынная і замежная апаратура. Вядома, будаўніцтва ішло не без цяжкасцей, але ўсё добра, што добра заканчваецца. А ў будынку старой паліклінікі размесцяцца стацыянарныя аддзяленні бальніцы.

Уладзімір МІХНО.

### Абарона – справа асабістая?

*Гэту тэндэнцыю ў нашым грамадстве яшчэ раз пацвярджае выстава-продаж, якая адкрылася ў мінскім Доме афіцэраў. Беларуская фірма "Холдтраст" упершыню наладзіла паказ сваёй прадукцыі — электрашокераў "Volmen".*

Тэхнічныя характарыстыкі гэтых сродкаў самаабароны — зручная форма і малая вага (200 г), паражэнне нападаючага праз слой адзення да 1,5 см, бяспека і ў выпадку дакранання да злачынцы (зарад не перадаецца на абаронцу) — прываблiваюць пакупнікоў. Выстава паказвае, што электрашокеры з ахвотай набываюць не толькі прыватныя асобы, але і банкі, фірмы, міліцэйскія падраздзяленні. Немалаважным з'яўляецца тое, што айчынныя электрашокеры ў некалькі разоў таннейшыя за замежныя.

Наталля ВАЛАКІДА.

### Разам з Сафі Ларэн і Міхалковым

*вядомы беларускі кінарэжысёр Віктар Тураў атрымаў ад генеральнага дырэктара ЮНЕСКО Федэрыка Майора запрашэнне прыняць удзел у рабоце ганаровага камітэта па сусветнаму святкаванню 100-годдзя кіно.*

У гэты камітэт уключаны самыя знакамітыя прадстаўнікі з усіх краін свету. Вельмі хутка ў адным радзе з Сафі Ларэн, Кшыстафам Кіслоўскім, Інгай Марбегман, Іштo Сабо, Юрыем Ільенкам, Мікітам Міхалковым з'явіцца імя беларуса Віктара Турава. Гэты рэжысёр вядомы гледачам па фільмах на ваенную тэматыку, напрыклад, "Я родам з дзяцінства", "Людзі на балоце". Амаль для ўсіх фільмаў Турава песні і музыку пісаў Высоцкі.

Віктару Тураву ў камітэце давядзецца папрацаваць над падрыхтоўкай конкурсу работ маладых рэжысёраў — выпускнікоў кінематаграфічных навучальных устаноў, а таксама садзейнічаць міжнародным арганізацыям кіно і тэлебачання, якія спрабуюць папярэдзіць закрыцці кіназалаў ва ўсім свеце і распаўсюджваць кінастужкі, што мала вядомы.

Святлана КУЛІКОВА.

### Бомж–"прадпрымальнік"

*Жыхары Маладзечна, якія не маюць халадзільнікаў і жывуць у гарадскіх інтэрнатах, звычайна захоўваюць свае харчы за вокнамі ў авоськах. Яшчэ зімою ў некаторых пачалі знікаць гэтыя авоські, нават з другіх-трэціх паверхаў, куды, здавалася, толькі з пад'ёмнікам можна дацягнуцца. На самай жа справе ахвотны на чужое аказаўся бомж П., які без усялякай тэхнікі, толькі "рабіў абходы" інтэрнатаў і вяртаўся ў сваё лежыва са здабычай.*

У ягоным падвале знайшлі цэлы склад авосек з харчам, які прадпрымальны бомж умудраўся не толькі спажываць, але і прадаваць на гарадскім кірмашы.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Дах для спартсменаў

*Нарэшце ў Петрыкаве адбылася доўгачаканая падзея — адкрылася фізкультурна-аздараўленчая зала. З гэтай нагоды тут прайшлі выступленні асілкаў і выхаванцаў групы ўсходніх адзінаборстваў, паядынак паміж валейбалістамі райцэнтра і Мазыра.*

Прыгожы сучасны будынак у новым мікрараёне недалёка ад аўтастанцыі ўзвялі рабочыя МПМК-110. Ён зможа ў любое надвор'е збіраць пад сваім дахам вялікую колькасць аматараў розных відаў спорту.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

**Курсы валют на 8 ліпеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 25110 | 25850 | 15624 | 16100 |
| "Прыор" | 25400 | 25700 | 16100 | 16300 |
| "Пошук" | 25100 | 25800 | 15700 | 16200 |

# Няхай перамогуць здаровы сэнс і згода ў грамадстве!

## Зварот Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.І.ГРЫБА да грамадзян Беларусі

Дарагія суайчыннікі!

Паважаныя грамадзяне нашай роднай Беларусі!

Заканчваецца прэзідэнцкая кампанія. Раней і цяпер у мяне пытаюць, якую пазіцыю займае кіраўніцтва Вярхоўнага Савета. Я гаварыў і тады, і пацвярджаю зараз, што Старшыня, Прэзідыум Вярхоўнага Савета дзейнічалі і дзейнічаюць у строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Яны зрабілі ўсё для таго, каб выбары адбыліся, каб прайшлі яны ў спакойных дэмакратычных абставінах.

Застаючыся верным сваім прынцыпам свайму слову як вышэйшая службовая асоба дзяржавы, не лічу магчымым выказвацца ў падтрымку якога-небудзь кандыдата ў прэзідэнты. Канчатковы выбар трэба зрабіць народу. Якім бы ён ні быў, мы будзем яго паважаць.

Але мяне, як грамадзяніна, як Старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, не можа не хваляваць нарастанне ў апошні час процістаяння розных партый, плыняў, рухаў і груповак у грамадстве. З віру палітычнай барацьбы на паверхню выходзяць асабістыя крыўды, непрыязнасць, незадаволенасць ходам падзей, якія ўжо адбыліся і сталі набыткам гісторыі. Узрастаючая наэлектрызаванасць грамадска-палітычнай атмасферы прымушае мяне заявіць наступнае.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета забяспечыць захаванне законнасці і кіруемасці ў рэспубліцы і не пойдзе на повадзе ў якіх бы там ні было палітычных сіл. Цэнтральная выбарчая камісія будзе строга кантраляваць увесь ход другога этапу галасавання, каб выключыць магчымасць любых процiпраўных дзеянняў.

Сёння ствараюцца ўмовы для выпраўлення становішча спраў у эканоміцы. Кіраўніцтва Вярхоўнага Савета строга прытрымліваецца ўзятага курсу: не ўхіляцца ад вырашэння эканамічных праблем. Урадам прымаюцца дзейсныя меры па прыпыненню спаду вытворчасці, выхаду з сацыяльна-эканамічнага крызісу. Пашыраюцца эканамічныя сувязі з краінамі блізкага і далёкага замежжа. Прынята рашэнне аб дадатковым выдзяленні сельскай гаспадарцы пазыкі ў памеры 500 мільярдаў рублёў. Адшукваюцца дадатковыя цэнтралізаваныя і ўласныя крэдытныя рэсурсы камерцыйных банкаў, якія будуць накіраваны на нарыхтоўку і перапрацоўку сельскагаспадарчай прадукцыі,значна павышаны закупачныя цэны. Упэўнены, што будзе ў нас на стале і хлеб, і да хлеба. З ліпеня да 100 тысяч рублёў павялічаны памер мінімальнай заработнай платы. Адпаведна ўзрастуць памеры пенсій, стыпендый і дапамог. Прынята рашэнне аб аднаўленні страт па ўкладах насельніцтва ў выніку інфляцыі. Зроблены яшчэ адзін крок на шляху аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Беларусь будзе захоўваць і развіваць сваю дзяржаўнасць, якую ўжо прызналі і паважаюць ва ўсім свеце. Паважаюць за прыстойнасць у міжнародных адносінах, за стабільнасць і мір у сваім доме.

Нельга даводзіць, і асабліва ў цяперашняй сітуацыі, партыйныя, палітычныя рознагалоссі да грамадзянскіх канфліктаў, уцягваць у іх народ. Той, хто пасее вецер – пажне буру. Я не маю прэтэнзій асабіста да кандыдатаў у прэзідэнты і адношуся да іх з павагай. Але мы ўжо стаміліся ад узаемных папрокаў і зняваг камандаў палітычных сапернікаў. Упэўнены, што наш народ стаіць вышэй гэтага. Ён заслужыў лепшую долю і маральную чысціню.

Дарагія суайчыннікі!

У дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі сотні тысяч людзей па загаду сэрца выйшлі на ўрачыстасці. Такога ўсеагульнага імкнення да яднання даўно ўжо не было. Няхай жа і далей нас аб'ядноўвае агульны клопат аб дабрабыце наша народа і нашай краіны. Давайце будзем дзейнічаць у духу адзінства і згоды дзеля карысці Беларусі – дэмакратычнай, прававой, гарманічна ўладкаванай еўрапейскай дзяржавы.

Міне час – і падзеі, што адбываюцца сёння, таксама будуць лічыць раз і назаўсёды здзейсненымі. Як хацелася б мне, і, перакананы, вам, каб сённяшнія праблемы хутчэй вырашыліся! Але скажу шчыра: лёгкага шляху тут не будзе. Пры любым прэзідэнце.

У нас могуць быць розныя погляды на тое, як гэта забяспечыць. Але цяпер галоўнае – не дапусціць грамадзянскага процістаяння. Толькі пры гэтай умове магчыма рэальнае паляпшэнне жыцця кожнага чалавека, кожнай сям'і.

Таму сёння хачу звярнуцца да тых, хто ў запале палітычных схваткак не грэбуе ніякімі, у тым ліку і недазволенымі, сродкамі для дасягнення сваіх мэт. Пакіньце мітусню, стрымайце амбіцыі. Памятайце, што любыя адступленні ад законаў з боку каго б там ні было будуць старанна расследаваны і атрымаюць належную ацэнку праваахоўных у судовых органаў незалежна ад вынікаў выбараў.

Паважаныя грамадзяне!

Сітуацыя, выбар, які нам трэба будзе зрабіць 10 ліпеня, прымусілі мяне звярнуцца да вас, да вашага розуму, да вашай разважлівасці. Давайце спакойна, незалежна ад сваіх палітычных прыхільнасцей і перакананняў, задумаемся аб будучыні, будучыні нашых дзяцей і ўнукаў. Бо гаворка ідзе аб лёсе Бацькаўшчыны, лёсе Беларусі, якую ўсе мы хочам бачыць мірнай, квітнеючай і шчаслівай. Прэзідэнты будуць прыходзіць і адыходзіць – такі закон, але народ будзе заставацца заўсёды. Ён ёсць і будзе гаспадаром у сваім доме.

Спадзяюся, што другі тур прэзідэнцкіх выбараў пройдзе згодна з нашымі законамі і ўстаноўленымі нормамі. Няхай жа спакой і разважлівасць, а ў першую чаргу – законнасць будуць у кожным нашым населеным пункце, на кожным выбарчым участку.

Шчасця і дабрабыту вам і вашым сем'ям!

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Вера ПАЛЯКОВА.

### "Еўраньюс"

#### ВАЙНА Ў ЙЕМЕНЕ СКОНЧЫЛАСЯ

*Пасля 2 месяцаў грамадзянскай вайны ў Йемене групы Паўночных войскаў занялі горад Адэн.*

Яшчэ за дзень да здачы сваёй сталіцы жыхары поўдня прасілі падтрымкі ў ААН. Здаўшы Адэн, яны страцілі апошні бастыён. Гэта азначае заканчэнне грамадзянскай вайны. Лідэры паўднёвых войскаў уначы ўцяклі з краіны ў невядомым напрамку.

#### НАРАДА "ВЯЛІКАЙ СЯМЁРКІ"

*Сёння ў Неапалі адкрываецца сустрэча кіраўнікоў вядучых краін свету: ЗША, Японіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі, а таксама Расіі.*

Італія прымае вядучых палітыкаў свету. Для шэфа ўрада Італіі Берлюсконі гэта першы вялікі выхад на міжнародную сцэну. Праграма сустрэчы вельмі насычаная. Наперадзе — шэраг важных для палітыкі свету размоў, прысвечаных стану сусветнай эканомікі, пошуку стратэгічных шляхоў стрымлівання беспрацоўя, уладжванне ваенных канфліктаў.

### "Уорлднэт"

#### НЕМЦЫ ЗНОЎ У ПАРЫЖЫ?

*Прэзідэнт Германіі Раман Герцаг выказаў вялікую ўдзячнасць французскаму кіраўніцтву за запрашэнне нямецкіх войскаў удзельнічаць у ваенным парадзе, які адбудзецца 14 ліпеня ў Парыжы.*

Раней такое рашэнне палічылі б абразай воінаў-ветэранаў французскага Супраціўлення. Герцаг заявіў, што гэтым крокам Францыя пацвердзіць, што нямецка-французскае сяброўства мацнее.

#### КУЛЬТУРА ЦІ ЭКАНАМІЧНЫ ІНТАРЭС?

*Венецыі пагражае новая небяспека. У некалькіх кіламетрах ад горада было адкрыта новае месцанараджэнне прыроднага газу, і адразу ж пачалася яго здабыча.*

Але гэта пагражае затапленню горада. Вада ў моры паднімаецца з кожным годам на 20 мм. Яшчэ ў 1961 годзе здабыча карысных выкапняў недалёка ад горада была забаронена. Венецыя — горад сусветнай культуры. Нядзіўна, што венецыянцы абураюцца аднаўленнем работ па здабычы прыроднага газу.

### "Суперчэннэл"

#### ШЫЗАФРЭНІК–МІЛЬЯНЕР

*Былая рок-зорка Джым Гордан з'яўляецца адным з найбагацейшых зняволеных Амерыкі. Ён напісаў сумесна з Эрыкам Клэптанам песню "Лэйла", якая прыносіць яму каля 300 тысяч даляраў у год.*

Гордан зараз знаходзіцца ў бальніцы для псіхічнахворых, бо прызнаны шызафрэнікам. У 1983 годзе ён забіў сваю маці. Як заявіў яго адвакат, Гордан зможа ўтрымліваць сябе, калі выйдзе на волю.

#### ЗАХОП ЗАЛОЖНІКАЎ

*У калоніі строгага рэжыму ў бразільскім горадзе Порта-Алегры 20 "зэкаў" захапілі 32 служачых турмы.*

У абмен на вызваленне заложнікаў яны патрабуюць адпусціць яшчэ 11 зняволеных, даць ім зброю, 3 машыны. У выпадку невыканання ўмоў яны пагражаюць знішчыць усіх заложнікаў. Інцыдэнт адбыўся ў турэмнай бальніцы. Сярод заложнікаў — 8 жанчын і галоўны ўрач калоніі.

#### ТОРЫ ЗДАЮЦЬ ПАЗІЦЫІ

*Узровень папулярнасці брытанскіх кансерватараў зараз знаходзіцца на самым нізкім узроўні за апошнія 50 гадоў.*

Паводле апытання Гэлапа, палітыку торы падтрымліваюць толькі 10,7 працэнта апытаных.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

